ЯК "КІДАЮЦЬ"



ГОМЕЛЬСКІХ ПРАД-ПРЫМАЛЬНІКАЎ

СТАР. 5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

КАБ У КРАІНЕ ЗАСТАВАЛІСЯ ДАЛЬНА-БОЙШЧЫКІ



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

25.10.12-31.10.12 г.


# СТАРЫ НОВЫ СІГНАЛ ТРЫВОГІ

Апошні тыдзень беларускі рубель дэманструе зайздросную моц.

## ТРЫВОЖНЫ СІГНАЛ

За 7 дзён нацыянальная валюта ўмацавалася адносна расійскага рубля на 7,5 Br, адносна долара — на 80 Br, а адносна еўра — аж на 220 Br. З улікам таго, што з канца жніўня рубель перманентна таннеў, ужо трохі лягчэй.

Праўда, палёгка гэтая з большага вонкавая. Пагрозы для рубля, пра якія мы пісалі тыдзень назад, нікуды не зніклі. Больш за тое, да іх даліся новыя.

Толькі што Нацыянальны банк апублікаваў свежую статыстыку. У верасні ўпершыню сёлета Беларусь атрымала істотнае адмоўнае знешнегандлёвае сальда — 505 мільёнаў долараў за месяц.

Нагадаю, што менавіта перавышэнне імпарту над экспартам было ці не галоўным чыннікам, які прывёў да рэкордных дэвальвацый рубля ў 2011 годзе. Таму пералом тэндэнцый у знешнім гандлі — вельмі трывожны сігнал.

Глядзіце самі. Яшчэ ў ліпені Беларусь экспартавала на 245 мільёнаў долараў больш, чым імпартавала. Аднак як толькі Расія пачала супрацьдзейнічаць кантрабандзе нафтапрадуктаў пад выглядам "разбаўляльнікаў" і "распушчальнікаў", становішча са знешнегандлёвым сальда імгненна пагоршылася. У жніўні яно ўжо пайшло ў мінус, хоць і не нашмат — 49 мільёнаў долараў. А вось у верасні адмоўнае сальда павялічылася адразу ў 10 разоў!




*Рублі ізноў сталі называць драўлянымі*

> "У верасні ўпершыню сёлета Беларусь атрымала істотнае адмоўнае знешнегандлёвае сальда — 505 мільёнаў долараў за месяц".

Тым часам 22 кастрычніка сярэднеўзважаная стаўка па аднадзённых міжбанкаўскіх крэдытах вырасла да 62% гадавых. Гэта сведчыць пра тое, што банкам не хапае рублёў. Пры гэтым яны маюць запас валюты. Здавалася б, у такой сітуацыі лагічна было б прадаць долары ці еўра, каб атрымаць неабходную суму ў нацыянальнай валюце. Але банкі робяць гэта вельмі неахвотна, аддаючы перавагу кароткатэрміновым крэдытам пад шалёную стаўку. Гэта сведчыць пра тое, што яны лічаць цяперашні курс беларускага рубля істотна завышаным, і чакаюць, што неўзабаве ён будзе дэвальваваны.

## У СТЫЛІ КАШПІРОЎСКАГА

Яшчэ адной падставай для песімізму стала паскарэнне інфляцыі пасля "выбараў" у палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Калі ў верасні, паводле афіцыйных звестак, цэны выраслі на 1,3%, то за палову кастрычніка — ужо на 0,9%. Апошняй на гэты момант навіной з'яўляецца падаражанне алкаголю з 25-га. Мінімальная цана на гарэлку павялічваецца больш, чым на 50%.

Супакоіць і прафесіяналаў, і насельніцтва паспрабаваў Аляксандр Лукашэнка. Падчас сваёй чарговай сустрэчы са старшынёй праўлення Нацбанка Надзеяй Ермаковай кіраўнік дзяржавы заявіў:

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# НАРКАМАН СУПРАЦЬ СЕЙФА З 40 МІЛЬЁНАМІ

Здарэнне адбылося ўначы ў Гродне ў адной з крамаў па вуліцы Ажэшка

Міліцыянты хутка раскрылі крадзеж — дапамаглі камеры відэаназірання, якія зафіксавалі, як падазроны сноўдаўся ў краме перад закрыццём і нічога не купіў.

Ва ўчыненні злачынства падазраецца ў мінулым шэсць разоў судзімы мясцовы наркаман. Сваю віну ён прызнае.

Як паведамляе БелаПАН, зламыснік разбіў шкло ў дзвярах і патрапіў у краму, адкуль забраў металічную скрынку з грашовай выручкай. Дома ён яе адкрыў ды забраў больш за 40 мільёнаў рублёў. Сейф сябра зламысніка выкінуў у Нёман.



# А ВЫ ГАТОВЫ ВЫХОДЗІЦЬ НА ПЕНСІЮ ПАЗНЕЙ?

Намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў у інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» цвёрда выказаўся наконт неабходнасці павышэння пенсійнага ўзросту. Наколькі гэта правільна і мэтазгодна, "Тут і цяпер" аналізавала з дапамогай экспертаў і будучых пенсіянераў.




*Пенсійная рэформа ні з чым станоўчым не асацыюецца*

**ЛЕРА СОМ, ПАЭТКА, НАСТАЎНІЦА, ПОЛАЦК:**

### "ПЕНСІЯ – МАГЧЫМАСЦЬ ЗРАБІЦЬ НЕШТА, ЧАГО НЕ ЗРАБІЎ У ЖЫЦЦІ".

– Як любы нармальны чалавек, я б усё ж хацела выйсці на пенсію як мага раней. Не таму, што не люблю сваю работу. А таму, што з нашымі заробкамі і экалогіяй, я ў свае сорак з капейкамі ўжо адчуваю пэўныя праблемы са здароўем. Шчыра кажучы, большасць калег майго ўзросту таксама адчуваюць аналагічныя праблемы. Калі па маладосці я гадоў пятнаццаць не выходзіла ні разу на бальнічны, толькі працавала, то зараз гэта дастаткова частая з'ява. Не так даўно, каля пяці гадоў таму, адбыліся пэўныя змены ў заканадаўстве, якія прывялі да таго, што фактычна большасць настаўнікаў (тыя, хто жадаў), не змаглі ў 50 гадоў выйсці на частковую пенсію. Але і гэта скасавалі.

**ФЁДАР МАГЛЫШ, ЭКАНАМІСТ, МІНСК:**

### "ДЗІЎНЫЯ НАМЕРЫ ЎРАДУ"

– Гэтыя цвёрдыя намеры ўраду павысіць пенсійны ўзрост мне падаюцца дзіўнымі.

Па-першае, у грамадстве і так існуе пэўная сацыяльная напружанасць, звязаная з вельмі істотным павышэннем цэн на большасць тавараў і паслуг. Да таго ж цяпер дастаткова істотна раскручваецца дэвальвацыйная спіраль. І калі не ў гэтым годзе, то на пачатку наступнага з павышэннем курса долара нам усё роўна прыйдзецца сутыкнуцца.

Па-другое, у сувязі з сур'ёзным недахопам працоўнай сілы ў краіне многім пенсіянерам, жадаючым працягваць працаваць далей, прадастаўляюць такую магчымасць.

Па-трэцяе, чаму такое сур'ёзнае пытанне вырашаецца без уліку меркавання саміх грамадзян? У нас рэгулярна праводзяцца ўсебеларускія сходы, рэферэндумы і г.д., а тут такую глабальную і балючую праблему вырашаюць фактычна кулуарна.

Па-чацвертае, мне падаецца, будучая эканамічная выгода ад гэтага рашэння да канца не пралічаная.

**ВЕРАНІКА КУЧАР, БУХГАЛТАРКА, ГОМЕЛЬ:**

### "ЗДАРОВЫЯ ЛЮДЗІ ПАВІННЫ ГЭТАЙ НАВІНЕ РАДАВАЦЦА".

– Я лічу, што засмучацца з гэтай нагоды могуць толькі хворыя людзі, якім насамрэч цяжка працаваць. Напрыклад, трэцяя група інваліднасці з'яўляецца працоўнай, але гэтым людзям не плацяць дапамогі. І ў першую чаргу пацерпіць менавіта гэтая група. Астатнія, я лічу, павінны радавацца. Таму, што ў іх ёсць праца і ёсць магчымасць быць актыўнай часткай грамадства. Сярод маіх знаёмых многія людзі, якія былі выпраўленыя на пенсію, успрымалі гэта вельмі драматычна. Таму што хацелі быць на сваім працоўным месцы. Яны хацелі і далей атрымліваць нармальныя заробкі, якія дазвалялі жыць больш-менш нармальна і давалі магчымасць дапамагаць сваім дзецям.

**ГЕОРГІЙ СТАНКЕВІЧ, ПАЭТ, НАСТАЎНІК, БЕШАНКОВІЧЫ:**

### "ХАЙ ЯНЫ ХОЦЬ ТРЭСНУЦЬ СА СВАІМІ ПЛАНАМІ".

– Я не збіраюся дажываць да пенсіі, наколькі блізкай ці далёкай яна б ні была. Я ніколі не думаў пра яе, як пра нейкае шчасце, з якога пачынаецца жыццё. Справа ў тым, што пенсія для мяне – гэта той нудны час, калі не застаецца ніякіх сілаў, каб працаваць, штосьці для кагосьці рабіць. Проста дажываеш свой век. Таму колькі б нам ні рухалі гэтую ўзроставую пенсійную планку вышэй ці ніжэй, мяне гэта ніколькі не пераймае. У мяне ёсць літаратура, ёсць гаспадарка – каровы, пчолы і гэтак далей. Таму хай яны хоць трэснуць са сваімі планамі, мне ўсё роўны прыйдзецца паміраць у нейкі дзень.

**СТАНІСЛАВА РЫНКЕВІЧ, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ, ВАЛОЖЫН:**

### "ГЭТА БУДЗЕ КАТАСТРОФА".

– Для сельскіх мужыкоў гэта будзе катастрофай. Бо цяжка працуючы ў калгасах за гэтыя няшчасныя капейкі, пенсія мужыкам здаецца нейкім залатым часам. Калі можна нічога не рабіць і грошы атрымліваць. Прычым больш, чым на гэтай клятай рабоце. Але ж цешацца гэтым пенсійным раем нейкі мізер мужыкоў. Бо, самі ведаеце, сярэдні мужчынскі ўзрост у краіне 62 гады. І калі адсунуць гэтую мяжу хоць на пару гадоў, пенсія ўвогуле будзе нейкай недасягальнай марай.

**ВАСІЛЬ КІСЕЛЬ, ІНЖЫНЕР, ГОМЕЛЬ:**

### "ПАВЫШАЦЬ ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ ТРЭБА ДЛЯ ЖАНЧЫН".

– У якой цывілізаванай краіне пенсійны ўзрост мужчын і жанчын адрозніваюцца так, як у нас? Пенсія і так невялікая. Бабы і так жывуць даўжэй за мужыкоў. Дык яшчэ і ў 55 гадоў выходзяць на пенсію. Фактычна яны на пенсіі бавяцца, улічваючы іх сярэдні ўзрост, гадоў дваццаць. А мужыкі ў дзесяць разоў меней. Толькі два гады. Ну і дзе справядлівасць? Таму я за павелічэнне пенсійнага ўзросту. Але толькі для лепшай паловы насельніцтва.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

**Намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў у інтэрв'ю газеце «Рэспубліка»:**

– Дзейны ў рэспубліцы пенсійны ўзрост (55 гадоў для жанчын і 60 гадоў для мужчын) усталяваны яшчэ ў 1956 годзе. У той час на пенсію па старасці ішлі людзі, якія перажылі калектывізацыю, вайну, цяжкія пасляваенныя гады. Фізічныя і псіхалагічныя нагрузкі, якія выпалі на долю гэтых людзей, не маглі не адбіцца на стане іх здароўя, а такім чынам, і працаздольнасці. У сувязі са зменай умоваў і якасці жыцця вырасла яго працягласць.

# СТАРЫ НОВЫ СІГНАЛ ТРЫВОГІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

— Совсем недавно мы констатировали факт, что нам удалось в какой-то степени переломить хоть небольшие, но негативные тенденции на валютном рынке, связанные прежде всего со слухами и политикой… Мы должны свято придерживаться того курса, который мы обозначили и огласили народу. Люди должны абсолютно понимать нас и верить.

Хм… Верыць Лукашэнку пасля таго, як перад выбарамі 2010 года ён неаднаразова абяцаў, што дэвальвацыі не будзе, можа хіба надта наіўны чалавек. Такія словы, хутчэй, павінны насцярожваць. Тым больш што гэтым разам Лукашэнка гаварыў досыць няпэўна. Што маецца на ўвазе пад "свято придерживаться того курса, который мы обозначили и огласили"? Курс рубля? Ці тое, што курс павінен фарміравацца на грунце попыту і прапанавання, без істотнага ўмяшання Нацыянальнага банка?

Хутчэй за ўсё, Лукашэнка і сам не ведае, што будзе заўтра. І таму проста спрабуе ўкалыхаць слухачоў у стылі знакамітага Анатоля Кашпіроўскага, які днямі наведаў Мінск…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# У.ЯРМОШЫН: "ТРЭБА ДАВАЦЬ ДАРОГУ МАЛАДЫМ"

**26 кастрычніка 70-гадовы юбілей святкуе былы прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын.**

Нягледзячы на самавітую дату, гулянняў з цыганамі не будзе. Уладзімір Васільевіч адзначыць гэты дзень з блізкімі і сябрамі ў адным са сталічных рэстаранаў.

## "Я НЕ МЕЎ НАВАТ ДАЧЫ"

Пасля адстаўкі з пасады прэм'ера Ярмошын некаторы час быў беспрацоўным. Пагаворвалі, што яму прапануюць пасаду ў Саўміне Саюзнай дзяржавы, аднак далей за размовы справа не пайшла. Не жадаючы спадзявацца наўдачу, Уладзімір Васільевіч з'ехаў у Расію. Пісалі, што нібыта на ПМЖ, але гэта няпраўда. Пакіраваўшы маскоўскімі будоўлямі, ён вярнуўся ў Мінск. Наогул варта адзначыць, што з былых прэм'ераў афіцыйна працаўладкавалі толькі Сяргея Сідорскага і Генадзя Навіцкага.

### ФАКТ З МІНУЛАГА

Пасля трагедыі на Нямізе (1999 год), калі ў цісканіне ў метро загінула больш за 50 чалавек, тагачасны старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын і начальнік ГУУС Мінгарвыканкама Барыс Тарлецкі былі адзінымі чыноўнікамі, якія напісалі прашэнне аб адстаўцы. Праўда, А. Лукашэнка іх адстаўку не прыняў.




*Каб усе так любілі Беларусь, як гэта робіць Ярмошын, рускі па нацыянальнасці*

"Без працы я доўга не працягнуў бы, — распавядае былы прэм'ер у адным са сваіх інтэрв'ю. — На шчасце, у той перыяд у мяне было досыць клопатаў. Так атрымалася, што, пакінуўшы пасаду прэм'ер-міністра, я не меў нават дачы. Дакладней, у мяне быў калісьці маленькі садовы домік шэсць на шэсць, але, калі стаў мэрам, я яго прадаў, бо было далёка ездзіць — 90 кіламетраў ад Мінска. Таму пасля адстаўкі без справы фактычна не сядзеў...".

Тры апошнія гады Ярмошын узначальваў сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства "Знешэканамбуд". Самы вядомы праект "Знешэканамбуда" — забудова "Славянскі квартал". Тры прыгожыя вышынныя будынкі, у якіх размешчаны офісы, кватэры і паркінг, суседнічаюць з "Белсвісбанкам" на праспекце Пераможцаў. Цяпер кампанія, у якой працуе экс-прэм'ер, будуе тры жылыя дамы і невялікі гатэль побач з "Мінск-Арэнай".

## "У МЯНЕ ВЫДАТНЫЯ АДНОСІНЫ З ТЫМІ, ХТО ЗМАГАЕЦЦА ЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ"

Каля месяца назад Уладзімір Ярмошын пакінуў кіруючую пасаду і працуе цяпер саветнікам дырэктара "Знешэканамбуда". "Трэба даваць дарогу маладым", — кажа ён. Дарэчы, сыходзячы з пасады прэм'ер-міністра, ён прытрымліваўся такога ж меркавання.

"Я выказаў Аляксандру Рыгоравічу сваё меркаванне аб тым, што бачу прэм'ера маладым актыўным чалавекам з новымі ідэямі і думкамі, — распавядаў Ярмошын праз пару гадоў пасля сваёй адстаўкі. — А мне тады ўжо было 59 гадоў. На фоне сваіх калег па краінах СНД я выглядаў бы пенсіянерам".

У некаторых краінах былыя міністры ўваходзяць у так званыя саветы старэйшын пры ведамствах, якія раней узначальвалі. У Беларусі такой традыцыі няма. Праўда, нядаўна сталі запрашаць эксчыноўнікаў у паездкі па рэгіёнах, пару разоў клікалі і Ярмошына.

"На жаль, у нас неяк не пачалавечы ўсё: калі кіраўнік сыходзіць, то ён назаўсёды адыходзіць ад ранейшых спраў, — казаў Ярмошын у адным са сваіх інтэрв'ю. — На мой погляд, гэта няправільна. Я, калі працаваў у Мінгарвыканкаме, раз ці два разы ў год збіраў усіх экс-мэраў Мінска. І не для таго, каб праверыць сваю дзейнасць, а проста каб выслухаць меркаванне людзей, якія калісьці працавалі на гэтым месцы".

Уладзімір Ярмошын нарадзіўся не ў Беларусі, па нацыянальнасці ён рускі. У Мінск прыехаў па размеркаванні ў 1965 годзе.

"Я адчуваю сябе паўнавартасным, ні ў чым не абмежаваным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, — кажа ён. — І ў мяне, дарэчы, выдатныя адносіны з тымі, хто сёння змагаецца за нацыянальнае адраджэнне Беларусі".

**ПЁТР РУДКОЎСКІ**

# НАСТРОЙ БЕЛАРУСАЎ – Ў БОК НЕГАТЫВУ

64,1% беларусаў лічаць, што айчынная эканоміка знаходзіцца ў крызісе.

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва) апублікаваў папярэднія дадзеныя апытання, праведзенага ў верасні-кастрычніку 2012 года.

У гэты час як раз прайшлі парламенцкія выбары. Улада ўжыла татальную мабілізацыю насельніцтва на выбарчыя ўчасткі. Традыцыйна, у гэты перыяд — завяршэнне уборачнай, перадвыбарныя абяцанні і гэтак далей — у “вярхоў” з'яўляецца нагода "прамыць мазгі" насельніцтву аповядамі аб тым, як мы добра жывем.

## РЭЙТЫНГ ЛУКАШЭНКІ: НЕ ВЫРАС, НЕ ЎПАЎ

У параўнанні з чэрвенем рэйтынг Лукашэнкі вырас з 29,7% да 31,6%, (у сакавіку ён складаў 34.5%). У працэнтах, гэта, вядома ж, "нязначны рост". Але самі сацыёлагі лічаць інакш.

Каментуючы **"Тут і цяпер"** такое павышэнне рэйтынгу Лукашэнкі, прафесар, сацыёлаг **Алег Манаеў** катэгарычна адмовіўся прызнаваць гэты плюс у 2,9% "ростам рэйтынгу Лукашэнкі". "Гэта нельга назваць ростам, таму што лічба не перавышае памылкі выбаркі ў 3%. Мы можам казаць толькі пра тое, што рэйтынг Лукашэнкі не ўпаў", — сказаў ён.

"Рэйтынг не ўпаў, таму што трохі матэрыяльнае становішча беларусаў у гэты перыяд ўсё ж такі палепшылася, або, па меншай меры, стабілізавалася. У параўнанні з чэрвенем, колькасць тых, чыё матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы пагоршылася, зменшылася на 7% (25% супраць 31,9% у чэрвені), на столькі ж зменшылася колькасць тых, хто лічыць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе (64,1% супраць 71,4%)", — растлумачыў Манаеў.



*Беларусы больш давяраюць сабе, чым тэлескрыні*

> “Само разуменне моцнай дзяржавы, аб якой так шмат казаў і прэзідэнт, і дзяржаўнае тэлебачанне, і ўся дзяржаўная прапаганда, — гэты вобраз і малюнак, — у свядомасці людзей ужо мяняецца”.

"Але рэйтынг і не вырас — працягнуў сацыёлаг. — Усё ж такі скепсіс у адносінах да будучыні свайго становішча беларускую душу не пакідае. У цэлым пазітыўнае"эканамічнае самаадчуванне" па-ранейшаму значна адстае ад негатыўнага. Паляпшэнне свайго матэрыяльнага становішча за трэці квартал адзначылі 14,7% апытаных, а пагаршэнне — 25%. З тым, што "наша краіна развіваецца ў правільным кірунку", згодныя 34,1%, а не згодныя — 47,4% . І самае галоўнае — 27,8% апытаных лічаць, што "сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады пагоршыцца", і толькі 18,4% — што палепшыцца".

## ЧОРНЫ ДЗЕНЬ НЕ ЗА ГАРАМІ

Гэта значыць, агульны настрой Беларусі "рухаецца ў бок негатыву", адзначае Манаеў. "Беларусы не чакаюць нічога добрага ў будучыні. Нават той маленькі прыбытак і стабільнасць, якія ёсць цяпер, не задавальняюць нашых грамадзян. Яны выдатна ўсведамляюць, што тое, што ў іх зараз ёсць у кішэнях — ненадзейна, і можа улятучыцца ў любы момант", — адзначыў сацыёлаг.

Манаеў адзначыў у сувязі з гэтым яшчэ адзін момант. Само разуменне моцнай дзяржавы, аб якой так шмат казаў і прэзідэнт, і дзяржаўнае тэлебачанне, і ўся дзяржаўная прапаганда, — гэты вобраз і малюнак, — у свядомасці людзей ужо мяняецца. Так, на пытанне: "Ці згодныя Вы з тым, што моцны лідэр можа сёння даць краіне больш, чым добрыя законы?" станоўча адказалі 43,3% апытаных, а адмоўна — 49,1%. Гэта значыць, зараз у людзей больш запатрабаваныя добрыя законы, а не моцная прэзідэнцкая ўлада.

Беларусы проста апанаваныя, як кажа Манаеў, "пачуццём несправядлівасці ўлады". Мільёны беларусаў замест абароны з боку дзяржавы атрымліваюць ад яго крыўды — трацiна апытаных сказала, што за апошнія тры гады іх крыўдзілі прадстаўнікі органаў улады.

## ПРАПАГАНДЫСЦКІ РУБІЛЬНІК ЗЛАМАЎСЯ...

Манаеў сам адзначыў, што ўлада на поўную катушку ў перыяд апытання выкарыстоўвала дзяржаўныя інстытуты прапаганды. "У перыяд выбараў Лукашэнка не вылазіў з тэлевізара. Ён казаў, што мы жывем добра, а будзем жыць яшчэ лепш, гэта былі "Зажынкі","Дажынкі ", пастаянная перадвыбарчая агітацыя і прапаганда. Варта ўзгадаць толькі паведамленне, што мы дасягнулі сярэдняй зарплаты ў 500 долараў, і паабяцалі, прычым неаднаразова, 600 долараў у наступным годзе ", — сказаў Манаеў.

Словы апошняга яскрава пацвярджаюцца маніторынгам асвятлення парламенцкіх выбараў у беларускіх СМІ, які з 31 ліпеня да 21 верасня праводзіла Беларуская асацыяцыя журналістаў. У гэты перыяд на старонках "СБ-Беларусь сегодня" прэзідэнт, яго выступы і "напампоўкі", звязаныя з перадвыбарчай кампаніяй, занялі 74,1% месца, адданага пад усе публікацыі аб выбарах. У навінах АНТ па аналагічных параметрах прэзідэнт заняў 40,5% эфірнага часу. У параўнанні з гэтым праграма "Панарама" канала "Беларусь 1", якая надала прэзідэнту толькі 11,11% эфірнага часу, выглядае ледзь не апазіцыйнай.

"Калі праводзіць аналогіі з парламенцкімі выбарамі 2008-га, 2004-га гадоў, то тады ў сувязі з прапагандай назіраўся ўсплёск рэйтынгу органаў улады і Лукашэнкі. Аднак цяпер сітуацыя не такая. Уключаны прапагандысцкі рубільнік не даў вынікаў", — заявіў Манаеў.

Па ягоных словах, беларусы зараз больш цвяроза ацэньваюць сітуацыю, і на прапагандзісцкія абяцанкі ўжо не вядуцца. Яскрава гэта бачна і па адносінах беларусаў да Расіі і Еўрасаюза. Калі яшчэ ў чэрвені пры неабходнасці выбару паміж аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем ў Еўрапейскі Саюз за першы варыянт выказваліся 43,6%, а за другі — 39.8%, то сёння гэтыя суадносіны сталі зваротнымі: 36,2% "за Расію" і 44,1% — за Еўрасаюз.

А між іншым, увесь год мы канфліктавалі з ЕС: ад дэмаршу паслоў увесну да непрызнання вынікаў выбараў увосень, ад "дэсанту мядзведзікаў" да высылкі шведскага пасла… Так што прапагандысцкая машына забуксавала і зламалася, і трэба яе тэрмінова зараз чыніць.

Вось толькі хто і як гэта будзе рабіць…

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ЯК "КІДАЮЦЬ" ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

**У Гомелі прадпрымальнікі гандлёвага цэтра "Сакрэт" правялі аднадзённы страйк. На сваіх гандлёвых месцах яны вывесілі абесткі "Сандзень" альбо "Пераўлік".**

Дробныя бізнесоўцы проста абурыліся высокімі арэнднымі стаўкамі, якія заламаў новы ўладальнік цэнтра – мінскае таварыства з дадатковай адказнасцю "НП-Сервіс". Апошні замест ранейшых 30-45 еўра за квадрат прапанаваў новыя дамовы, паводле якіх той жа квадрат каштуе ўжо 70-120 еўра. Гэта і падштурхнула прадпрымальнікаў да пратэсту, якога ў другім па велічыне горадзе краіны даўно не было.

## ВЯРШКІ ДЛЯ ЎЛАСНІКА

За сем гадоў існавання ў гомельскага паркінга "Сакрэт" змянілася некалькі ўласнікаў. І кожны імкнуўся "злізаць вяршкі", не абцяжарваючы сябе ўслед за падвышэннем арэнднай платы нейкімі зменамі у абсталяванні арэндных памяшканняў ці ўмовамі працы прадпрымальнікаў. Тут і зараз ні вентыляцыі, ні кандыцыянэраў, ні прыбіральняў. Дробныя бізнесоўцы абураліся, сыходзілі ў адпачынак, але плацілі.

І вось сёлета ў кастрычніку, калі на авансцэне "Сакрэта" з'явілася кампанія "НП-Сервіс" са сваімі коштамі на арэнду гандлёвых плошчаў, прадпрымальнікі, што называецца, не вытрымалі.

"За ралет, плошча якога 20 квадратных метраў, я мушу плаціць кожны месяц 2 тысячы еўра арэнды. Гэта што, мне трэба рабаваць гараджан, каб заплаціць арэнду?" – абураецца прадпрымальніца Алена.

## СТАНДАРТ – ВАКОЛ ПАЛЬЦА

У "Сакрэце" арэндуюць плошчы каля чатырох сотняў прадпрымальнікаў. З улікам сямейнага падраду і прадстаўнікоў такіх буйных кампаній, як "Мілавіца" і "Аксіс", гаворка ідзе пра лёс прыкладна 700 сем'яў, якія могуць апынуцца на вуліцы без сродкаў існавання.

Спадарыня Святлана з ліку тых, хто таксама можа застацца без працы: "Мы ўжо выказалі і ўраду, і мясцовым уладам, і новаму ўласніку паркінга, што мы не рабы, і на рабаўладальніцкія стасункі мы не згодныя. Мы – звычайныя людзі, мы проста хочам працаваць".

Да нядаўняга часу гандлёвы цэнтр "Сакрэт" належаў ААТ "Новы стандарт". Адміністрацыя цэнтра ў асобе дырэктаркі Валянціны Пташынскай дамаглася скасавання заключаных раней дамоваў, у тым ліку і доўгатэрміновых.

"З намі скасавалі дамовы, можна сказаць, шляхам абману. Запрашалі кожнага паасобку і пераконвалі – я кажу, як было асабіста са мною, – што дамова застанецца ў сіле і на ранейшых умовах. Адзінае, што зменіцца – гэта ўласнік".

На зводкі, наколькі вядома, не паваліся толькі паўтара дзесятка арэндатараў. Пэўна ведалі: змена ўласніка не азначае аўтаматычную змену раней заключаных пагадненняў. Астатнія – уласнымі рукамі скасавалі наяўныя дамовы, чакаючы, што новы ўласнік, кампанія "НП-Сервіс", заключыць іх на ранейшых умовах. І, мякка кажучы, наступілі на горла ўласнай песні. А новы ўласнік не прамінуў скарыстацца спрошчанай сітуацыяй: хочаш працаваць – плаці арэнду па новых стаўках.

Цяперашнік прадстаўнік "НП-Сервіс" у Гомелі Дзяніс Юрасаў заяўляе: "Мы не адказваем за дзеянні папярэдніх уласнікаў. У нас няма канфлікту з тымі арэндатарамі, хто з намі супрацоўнічае".

Тым часам асобныя прадпрымальнікі пачалі атрымліваць лісты ад таварыства "НП-Сервіс" за подпісам ягонага прадстаўніка Элізаровіча, у якіх у катэгарычнай форме патрабуецца пакінуць арэнднае памяшканне. Да прыкладу, памяшканне №137, якое займае Павел Макаранка. Апрача таго, на мінулым тыдні новы ўласнік скарыстаў "веернае адключэнне электрычнасці", чым спаралізаваў працу шэрагу гандляроў.

Старшыня рады прадпрымальнікаў цэнтра Наталля Дасько лічыць, што яе калег уласнікі цэнтра проста ўцягнулі ў невыносныя ўмовы, як у нерат: "Што можа прадпрымальнік у такой сітуацыі? Прыняць навязаныя ўмовы альбо сысці. Калі шчыра,ісці нам няма куды, хіба толькі адкрываць бізнес у суседніх Расіі ці Украіне. Плаціць шалёную арэнду таксама не выпадае – зруйнуем на корані ўласную справу".

Кіраўнік рады прадпрымальнікаў Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Перспектыва" Анатоль Шумчанка, які прыязджаў 23 кастрычніка ў Гомель, падчас гутаркі з прадпрымальнікамі "Сакрэта" заявіў: "Я доўга думаў, што ж у вас тут адбылося? А ўсё вельмі проста. На жаргоне ліхіх 90-х гадоў гэта называецца "кідалава". Вас проста, выбачайце за выраз, бо не магу падабраць іншы, тупа кінулі".

## У ПОШУКАХ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Аднадзённы страйк гомельскія прадпрымальнікі выкарысталі для паходаў па справядлівасць. Спачатку разам з кіраўніком "Перспектывы" Анатолем Шумчанкам яны накіраваліся ў Цэнтральны райаддзел міліцыі Гомеля, каб перадаць калектыўную заяву пра здзяйсненне злачынства. Лічаць, што згаданая дырэктарка АТТ "Новы стандарт" Пташынская злоўжывала даверам, каб пераканаць прадпрымальнікаў скасаваць папярэднія дамовы. У выніку пацярпелі дзесяткі арэндатараў гандлёвага цэнтра. Адсюль і просьба да міліцыі правесці праверку і ацаніць дзеянні дырэктаркі з прававога пункту гледжання.

У другой палове дня ініцыятыўная група прадпрымальнікаў выправілася ў аблвыканкам на трохбаковую сустрэчу: супрацоўнікаў камітэта эканомікі, рады прадпрымальнікаў "Сакрэта" і прадстаўнікоў уласніка – кампаніі "НП-Сэрвіс" у асобах Івана Беразоўскага і Дзмітрыя Барысёнка.

Намесніца старшыні камітэта эканомікі Марыя Крывунь на гэта заўважыла, што органы ўлады "не ўмешваюцца ў гаспадарчую дзейнасць суб'ектаў гаспадараньня, тым больш, што гэта суб'екты гаспадарання прыватнай формы ўласнасці".

На думку прадстаўніцы эканамічнай структуры, сітуацыя наагул выглядае крыху дзіўнай, калі не сказаць камічнай: прадпрымальнікі, якія зарабляюць грошы і ніяк не падпадаюць пад дзіцячасадаўскую катэгорыю, дазволілі абвесці сябе вакол пальца.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



*Прадпрымальцкі хлеб не самы лёгкі*

# КАБ У КРАІНЕ ЗАСТАВАЛІСЯ ДАЛЬНАБОЙШЧЫКІ

**Герой гэтага артыкулу ўжо трэці год працуе ў Маскве. На радзіме, у Магілёве пра "капейкі" ў аўтабазе і ўспамінаць не хоча.**


*Жыццё дальнабойшчыкаў не такое салодкае*

## ТРЫ ЎМОВЫ ДЛЯ ПЛЁННАЙ ПРАЦЫ

Цяпер **Аляксей Антончыкаў**, і за сябе, і за сваіх родных спакойны. У Маскве, дзе ён уладкаваўся кіроўцам ў прыватную транспартную фірму, яго заробак складае **1000 еўра ў месяц**.

Праўда, працаваць у Расіі больш як 5 гадоў нязгодны. Гэтыя 5 год дадуць яму сродкі на будаўніцтва свайго дома. Ён цвёрда намераны вярнуцца на радзіму тады, калі будзе куды — менавіта ў свой дом, а не ў кватэру. "Тады не прападу, праскочу свой цяжкі перавал", — гаворыць Аляксей.

Такім чынам, аповед Аляксея канстатацыя таго факта, што ў Расіі беларусу можа пашанцаваць, калі ён:

1) уладкуецца ў прыватную фірму;

2) сумленна і шчыра будзе працаваць (а беларусы гэта ўмеюць);

3) уважліва прачытае кантракт перад тым, як яго падпісваць.

А калі на паперы ніякай дамовы няма, то Аляксей раіць бегчы ад такой фірмы як мага хутчэй.

## ЭХ, ДАРОГІ…

— Зараз у мяне непрацяглы адпачынак: з дальніх рэйсаў па Еўропе вярнуўся, — распавядае Аляксей. — Праехаў на маршрутцы ад Мінска да Магілёва. Усе ў захапленні ад гэтай нашай новай чатырохпалоснай шашы Магілёў-Мінск. Гэта таму, што іншых сапраўдных аўтабанаў нашы людзі не бачылі. А аўтабаны гэта нават і не дарогі, хаця бетоннае пакрыццё ёсць асноўным іх складнікам, а кірункі і развязкі, з'езды-выезды зроблены максімальна эфектыўна. Там дарогі — гэта цэлая сэрвісная сістэма, цэлая індустрыя. Ну, у двух словах тут не распавядзёш. Раю праехацца па Еўропе, ды хоць і ў Польшчу з'ездзіць і ўбачыць самім. А наша новая шаша ні ў якае параўнанне не ідзе. Да таго ж развязак на ёй накруцілі на кожных 10 км, а навошта? Каб заехаць на стаянку да кафэ, напрыклад, у Паплавах, трэба круціцца ледзь ці не 10 хвілін вакол, у процілеглым напрамку ад кірунку, у якім ехаў. І так па ўсёй дарозе. Пры гэтым ва ўсіх праекціроўшчыкаў вышэйшая адукацыя — ну і што яны сабе думалі?! Лепш бы вёскі заасфальтавалі, бо там, як памятаю па рабоце ў аўтабазе, што абслугоўвала сумежныя раёны, не праехаць, не прайсці…

Асобная тэма — дарогі ў Расіі. Тут і гаварыць няма чаго, усе і так ведаюць. Толькі што вакол Масквы тая шыкоўная МКАД, але і яе ўжо забіваюць пробкі, і яна ў многіх месцах

> "Тут усё адпрацавана — не адкруцішся: у яго і відэакамера ў руках, і прыбор кантрольны, і манітор з зафіксаваным "парушэннем". Словам, давай ад 20 да 50 еўра і каці далей. А не, дык не абярэшся клопату".

папсавалася. Самае ж дзіўнае ведаеце што? Гэтую МКАД час ад часу перабягаюць людзі. Не, вы ўявіце сабе які-небудзь нямецкі аўтабан, па якім бы бег чалавек на другі бок! А тут бягуць, канечне, трапляючы пад колы. Сам быў сведкам некалькіх жахлівых выпадкаў. Але гэта не хвалюе ні гэтых смельчакоў, ні ДАІ, ні адміністрацыю дарогі. Што тычыцца ДАІ, то гэтых інспектараў цікавіць толькі хабар. Тут усё адпрацавана — не адкруцішся: у яго і відэакамера ў руках, і прыбор кантрольны, і манітор з зафіксаваным "парушэннем". Словам, давай ад 20 да 50 еўра і каці далей. А не, дык не абярэшся клопату.

Асабліва такое распаўсюджана ў глыбінцы. Там людзі і жывуць значна бядней, чым у Маскве, і дарогі значна горшыя, і даішнікі больш злыя. На такія фуры, якую ганяю я, у іх асаблівы нюх і разлік. А вось каб паклапаціцца пра культуру ваджэння расійскіх калег і прыстойныя паводзіны на дарозе, дык не. Культура некуды знікае адразу за беларускай мяжой з Расіяй, пры ўсёй яе сімвалічнасці. Едуць як папала, ніякага захавання хуткаснага рэжыму, абмежавальнай габарытнасці, ніякіх табе правілаў абгону і выезду на шашу...

Што тычыцца пабораў, то яны распаўсюджаны не толькі на дарогах. Неафіцыйна плаціць трэба менеджарам на складзе ці прадпрыемстве, якія распарадзіцца тваёй разгрузкай альбо загрузкай; слесарам, што агледзяць тваю машыну; вахцёрам, якія ахоўваюць абсталяваныя стаянкі. За ўсё гэта наша фірма плаціць сваім партнёрам афіцыйна. Але нам, кіроўцам, даводзіцца і са сваёй кішэні даплочваць канкрэтным людзям, бо інакш і не выгрузішся, і не загрузішся, і не пераначуеш нармальна. Таму, каб не пасварыцца, я дома не кажу жонцы, колькі грошай даводзіцца мне траціць па дарозе, прычым не на сябе, а на дробны хабар. А самі мы харчуемся сціпла. Я вось, напрыклад (смяецца), на макароны і глядзець ужо не магу. Затое танна! У Еўропе, праўда, і хацеў бы сціпла пахарчавацца, ды не атрымліваецца — такое ўсё прывабнае і смачнае. І нядорага зусім, дарэчы… Ці ёсць да нас іншае стаўленне ў Еўропе? Ды не, не заўважаў. Ад сваіх маем іншае стаўленне, на беларускай мытні, напрыклад. Чаму палякі прапускаюць нас за 20 хвілін, а нашы пры тых жа самых дакументах на рэйс добра, калі за 3-4 гадзіны? І чаго толькі не патрабуе гэтая наша лейтэнантка з падведзенымі брывамі: і завераная апісанне груза, і камандзіровачнае пасведчанне з дзясяткам пячатак, і копію пашпарта з візамі, і ледзь ці не ЧЫП з запісам маршруту. І пры гэтым не ўсміхнецца, і слова цёплага не скажа…

## ПРАЛЬНЫ ПАРАШОК, ДЗІЦЯЧЫ І ЖАНОЧЫ АБУТАК, БЫТАВАЯ ТЭХНІКА

— Вось гэтым пералікам практычна і абмяжоўваюцца просьбы маёй цешчы і жонкі да мяне, калі еду праз Еўро-

пу дадому. І куды яны толькі дзяваюць гэты пральны парашок? – смяецца Аляксей. Прывожу і прывожу амаль што мяхамі. Цешча якасцю не нахваліцца, а жонка — коштам. Але асабліва радуе іх абутак для нашага 5-гадовага малога і для іх саміх. Тут зноў і якасць, і кошт. У нас кошт дзіцячых боцікаў пачынаецца ад 180 тысяч (18 еўра!), а там я такія ж самыя, а то і лепшыя, магу набыць за 2-3, ну, самае большае 5 еўра. Тое ж і з абуткам для жонкі, таму яна ў мяне мае туфлі-боты на ўсе выпадкі.

Ды і ўвогуле за тыя пару год, што працую, прыбарахлілася наша сям'я няблага. Хаця мы на гэтым, як кажуць, не ссунутыя. Я так увогуле абыходжуся джынсамі і курткамі скуранымі. Але ж і іх хочацца набываць па нармальнай цане, а не па той шалёнай, як у нас дома. Ну і зноў жа — якасць. Разам з гэтым навазіў у дом рознай бытавой тэхнікі: мясарубку з хуткаснымі рэжымамі, сокавыціскалку, мікрахвалеўку, кава-аўтамат. А таксама розныя патэльні, падстаўкі, кручкі, сурвэткі, абрусы… Там гэта ўсё значна таннейшае, чым у нас. Дома мы толькі тэлевізар набылі, імпартны, канечне, вялікі. На мяжы за яго давялося б заплаціць немалы падатак. А вось яшчэ: калі там набываеш тавар больш чым на 100 еўра, то на мяжы табе вернуць падатак на дабаўленую вартасць: да 10 працэнтаў, як правіла. Дробязь, але ж прыемна. А бацьку з цесцем і сябрам прывожу замежны алкаголь: гарэлку якую дацкую ці шведскую, якую яны ніколі не бачылі, каньяк французскі ды віскі шатландскі. Вось тут у выйгрышы заўсёды, бо і якасць гарантавана, і кошт прымальны. У нас жа такія напоі каштуюць проста шалёныя грошы — глядзіш на цэннікі, і не верыцца. Думаю, таму і п'юць нашы мужыкі "чарніла палепшанай якасці", бо набыць нешта прыстойнае ім не выпадае.

### "МЫ Ж БЕЛАРУСЫ, ТАКІЯ ПРАЦАВІТЫЯ!"

Я ў прырobку цяпер. Разумею гэта і памятаю заўсёды. Намеру звязваць жыццё хаця б з той жа Масквой не маю. І так там амаль усе нашы хлопцы. Крыўдна, што працаваць дома не выпадае. У мікрараёне, дзе жыву, неўзабаве і паздароўкацца не будзе з кім: усе мае аднагодкі, хто не спіўся і каго не задавальняе праца за капейкі, з'ехалі. Але, думаю, на пэўны час, як і я. Дарэчы, у той жа самай Еўропе каго толькі не сустракаем мы на трасах за стырном аўто, што належаць зусім не тым краінам, адкуль кіроўцы родам. Гэта нармальна — быць там, дзе лепш жывецца і дзе больш плацяць. Але ж родны дом ёсць родны дом. Думаю і спадзяюся, што гэта часова мы вымушаны працаваць не ў сябе, а ў суседзяў. У нашай краіне нейкія эканамічныя складанасці, але верыцца, што справа наладзіцца. Мы ж, беларусы, такія працавітыя! За гэта нас і цэняць. А дома што ж, непатрэбныя? Канечне, гэта нейкая недарэчнасць, нейкі збой, паломка. Так бывае ў дарозе. Толькі вось для таго, каб ехаць далей, трэба не кідаць машыну ў кювеце, а рамантаваць яе. Гэтак жа і з краінай, праўда? Мо яна і патрабуе якога рамонту — я ў палітыцы як такой мала разбіраюся. Толькі здаецца мне, што дома ў сябе мы павінны і маглі б жыць лепш. І не ехаць за мяжу за падпрацоўкамі.

Але я мяркую, гэты час павінен скончыцца. Не хацеў бы (хоць аб гэтым і рана яшчэ думаць), каб мой сын мусіў з'ехаць з дома некуды на заробкі. Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся — так жа ж?..

**ЗАПІСАЎ СПОВЕДЗЬ ВІКТАР ВОЙТ**




# ЖАНЧЫН-«ПІЛАРАМ» ПАСТАВЯЦЬ НА ЎЛІК?

## На днях у Беларусі пачаў дзейнічаць сайт для тых, хто сутыкнуўся з хатнім гвалтам.

На сайце http://ostanovinasilie.org/ можна атрымаць агульную інфармацыю аб праблеме, знайсці кантакты арганізацый, якія аказваюць дапамогу як пацярпелым, так і агрэсарам, азнаёміцца з заканадаўчай базай, накіраванай на вырашэнне праблемы хатняга гвалту.

«Адметнай рысай сайта з'яўляецца магчымасць зваротнай сувязі, — распавядае Юлія Іванюшкіна, генеральны сакратар грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын", якая выступае адміністратарам сайта. — Любы жадаючы можа задаць пытанне юрысту або псіхолагу і атрымаць адказ на працягу аднаго працоўнага дня».

### ТЫМ ЧАСАМ

Днямі ў Вільні сабраліся прадстаўнікі беларускіх апазіцыйных партый і жаночых арганізацый для таго, каб абмеркаваць ужо практычна гатовую Нацыянальную гендарную платформу і мемарандум аб супрацоўніцтве па яе рэалізацыі.

Падчас аднаго з дакладаў прагучаў даволі цікавы факт: у МУС знаходзіцца праект закона аб прадухіленні хатняга гвалту, адзін з артыкулаў якога прадугледжвае правядзенне тлумачальнай работы з жонкай, якая часцяком пілуе мужа, бо нібыта яна сваімі паводзінамі можа справакаваць гвалт у сям'і.

"І калі грамадзянская супольнасць не будзе прымаць удзел у распрацоўцы і актыўным абмеркаванні такіх законапраектаў, то на выхадзе мы рызыкуем атрымаць даволі дзіўны прадукт, — звярнула ўвагу старшыня ГА «Радзіслава» Вольга Гарбунова. — Напрыклад, у праекце закона аб прадухіленні хатняга гвалту ёсць артыкул аб віктымных* паводзінах жанчын, якія пацярпелі ад сямейнага гвалту. Калі ўчастковы прыйшоў у сям'ю і атрымаў доказы, што жонка, кажучы простай мовай, пілуе мужа, то яна можа патрапіць на асаблівы ўлік, таму што сваімі дзеяннямі быццам бы справакавала паводзіны мужа. Важна, каб грамадзянская супольнасць не ўпусціла з-пад увагі гэты момант, бо калі закон прымуць, то будзе значна прасцей паставіць жанчыну на прафілактычны ўлік, а не разбірацца, чаму яе б'е муж".

Па словах Вольгі Гарбуновай, неабходна ажыццяўляць маніторынг праграм, планаў, што рэалізоўваюцца ў тым ліку па лініі МУС, на што трацяцца велізарныя рэсурсы, у тым ліку і міжнародныя.

**МАРЫНА МІТ**

**ДЛЯ ДАВЕДКІ**

**Сайт http://ostanovinasilie.org/ быў створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы агенцтваў ААН "16 актыўных дзён супраць гвалту ў адносінах да жанчын" і некалькі гадоў функцыянаваў як блог. У ходзе рэалізацыі праектаў ЮНФПА па прадухіленні хатняга гвалту і забеспячэнні гендарнай роўнасці сайт быў рэканструяваны і атрымаў новае напаўненне.**

**Тут будуць выказвацца спецыялісты, якія працуюць з праблемай хатняга гвалту. Наведвальнікі сайта таксама змогуць апублікаваць свае паведамленні.**

* **Віктымнасць** — схільнасць чалавека да паводзін, якія павышаюць шансы на здзяйсненне злачынства ў дачыненні да яго.

Барысаўскі БАТЭ завяршыў першы круг групавога турніру футбольнай Лігі чэмпіёнаў, буйна саступіўшы ў Мінску іспанскай «Валенсіі» - 0:3.

# БАТЭ ПРАЙГРАЎ, АЛЕ НАДЗЕЯ ЖЫВАЯ

## МІНУЛЫ СЦЭНАР НЕ ПАЎТАРЫЎСЯ

Такі лік стаў нечаканасцю пасля дзвюх перамог, здабытых барысаўчанамі ў першых двух матчах. Нагадаем, БАТЭ з аднолькавым лікам 3:1 выйграў у гасцях у французскага «Ліля» і ў хатняй сустрэчы з германскай «Баварыі», фіналіста папярэдняга розыгрышу Лігі чэмпіёнаў.

Верагодна, дзве перамогі трохі закружылі галовы прыхільнікам чэмпіёнаў Беларусі, і многія вырашылі, што пасля перамогі над «Баварыяй» камандзе Віктара Ганчарэнкі сам чорт не страшны. Аднак «Валенсія» - дасведчаная каманда, у складзе якой ёсць футбалісты нацыянальных зборных Іспаніі, Аргенціны, Партугаліі, Францыі, Мексікі, Парагвая. Цікавасць да матчу была велізарнай: заўзятары запоўнілі ўсе трыбуны сталічнага стадыёна «Дынама».

Сустрэча пачалася націскам гасцей, якія ўпэўнена кантралявалі мяч, не даючы барысаўчанам ніякіх шанцаў на контргру. Аднак падобны сцэнар рэалізоўваўся і ў паядынку з «Баварыяй». Таму, здавалася, пройдзе час, і іспанцы аслабяць націск. Сапраўды, пасля паўгадзіны гульні мяч перайшоў да БАТЭ, і гаспадары час ад часу сталі пагражаць брамы гасцей. Вострыя праходы атрымаліся ў Паўлава і

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

**Пакуль у нашай групе тры каманды набралі па 6 ачкоў - «Валенсія» (розніца мячоў 6-2), БАТЭ (6-5) і «Баварыя» (4-4). У «Ліля» пакуль тры паражэнні (1-6). У плэй-оф па выніках групавых турніраў выходзяць па дзве лепшыя каманды васьмі груп.**




асабліва Бардачова, пасля якога небяспечна біў Радзівонаў. Але лік адкрыць не атрымалася, а на зыходзе першага тайма барысаўчане празявалі контрвыпад «Валенсіі». Сербскі абаронца БАТЭ Сіміч ў сваёй штрафной рукамі спыніў форварда гасцей Сальдада, які бездакорна выканаў пенальці - 0:1.

Пасля перапынку беларусы рынуліся наперад адыгрывацца і былі блізкія да мэты: магчымасць зраўняць лік выпусціў Радзівонаў. І тут жа «Валенсія» правяла паражальную контратаку, заключнымі фазамі якой сталі навес мексіканскага паўабаронцы Гуардадо і ўдар з лёта форварда зборнай Іспаніі Сальдада - 0:2.

## УСЕ ПЛАНЫ ВАЛЕНСІЯНЦАЎ РЭАЛІЗАВАЛІСЯ

Пасля гэтага ініцыятыву трывала захапілі госці. Яны стварылі яшчэ нямала

> "Аднак «Валенсія» - дасведчаная каманда, у складзе якой ёсць футбалісты нацыянальных зборных Іспаніі, Аргенціны, Партугаліі, Францыі, Мексікі, Парагвая".

небяспечных момантаў каля брамы Гарбунова. Трэці гол быў забіты пасля прыгожай перепасоўкі аргенцінца Ціна Коста і таго ж Сальдада, у якога атрымаўся хеттрык.

Ганчарэнка зрабіў тры замены, выпусціўшы на поле Сівакова, Мазалеўскага і Брэсана, аднак ні адна з іх на ход гульні не паўплывала. Спробы беларусаў арганізаваць атакуючыя дзеянні перарываліся на кораню. Асабліва шчыльна апекавалі Глеба і Радзівонава.

На прэс-канферэнцыі трэнер гасцей Маурысіо Пелегрына сказаў, што, рыхтуючыся да матчу, ён надаў галоўную ўвагу абароне ўласных варот, каб засцерагчы іх ад контратак БАТЭ. Іншай задачай было не даць БАТЭ звыкла разыгрываць мяч у цэнтры поля і шукаць шанец, выкарыстоўваючы памылкі гаспадароў. Усе намечанае валенсіянцам удалося ў поўнай меры. Затым Віктар Ганчарэнка пацвердзіў, што трэнерскі штаб гасцей выдатна падрыхтаваўся да матчу і пазбавіў яго падапечных асноўных гульнявых козыраў.

Праз два тыдні, 7 лістапада, БАТЭ правядзе матч у адказ у Валенсіі. Затым 20 лістапада прыме ў Мінску «Ліль» і завяршыць групавы турнір выездам у Мюнхен 5 снежня.

**МІХАСЬ МОШЫН**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 25.10.12
Тыраж 299 экзэмпляраў